№№143–144
(3682–3683)
14 верасня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

МЫ ПАМЯТАЕМ...

# 16 верасня — 13 гадоў, як зніклі Віктар Ганчар і Анатоль Красоўскі

*У гэты дзень у Эйндховене (Нідэрланды) адбудзецца цырымонія ўшанавання памяці гвалтоўна зніклых беларусаў.*

Чатыры гады таму тут пры ўдзеле муніцыпальных улад у цэнтры Эйндховена, які з 1995 года з'яўляецца горадам-пабрацімам Мінска, былі пасаджаны 4 дубы ў памяць аб гвалтоўна зніклых **Юрыю Захаранку, Віктару Ганчару, Анатолю Красоўскаму, Дзмітрыю Завадскаму**.

У нядзелю на акцыі выступіць ўдава бізнесмена **Ірына Красоўская**, дэпутат парламента **Нідэрландаў Ян-Марынус Віерсма** і іншыя. Паэты Лео **Месман і Піт ван дэн Боом** зачытаюць свае вершы, прысвечаныя гвалтоўна зніклым беларусам.

Падчас цырымоніі будзе таксама зачытаны верш **Уладзіміра Някляева** "Памяці зніклых", напісаны спецыяльна да гэтай даты.

У датычнасці да знікнення **Анатоля Красоўскага** і **Віктара Ганчара** падазраецца шэраг былых і дзеючых высокапастаўленых чыноўнікаў.

## *Памяці зніклых*

*Уладзімір Някляеў*

***Няма вас сярод мёртвых і жывых.***
***Вы на зямлі не дажылі да смерці.***
***Пакінуўшы і родных, і чужых,***
***Вы проста зніклі, як знікае вецер.***
***А мы жывём, бо трэба жыць далей,***
***Каб зразумець, як дорага мы плацім***
***За ўсё —***
***і што за ўсё найдаражэй***
***Магілы,***
***над якімі можна плакаць...***





ОФИЦИОЗ

## *Переговоры за закрытыми дверями*

*Президент Парламентской ассамблеи ОБСЕ Рикардо Мильори и спецкоординатор миссии краткосрочных наблюдателей от ассамблеи Маттео Мекаччи обсудили с министром иностранных дел Беларуси Владимиром Макеем "перспективы взаимодействия".*

Об этом сообщил пресс-секретарь МИД **Андрей Савиных**.

*"Как вы уже знаете со слов господина Мекаччи, переговоры носили закрытый характер. Это была рабочая встреча, стороны обсуждали перспективы нашего взаимодействия"*, — цитирует БелаПАН слова Савиных.

Визит представителей ПА ОБСЕ в Минск завершился 12 сентября. Как сообщила пресс-служба ассамблеи, Мекаччи выразил сожаление, что в ходе визита им так и *"не предоставили возможности встретиться с теми политиками, которые находятся в тюрьме"*.

В эксклюзивном интервью БелаПАН Мильори отметил, что представители ПА ОБСЕ давно просили у белорусских властей предоставить им возможность встретиться с политзаключенными. *"Я просил о такой возможности у министра Мартынова* (бывший глава МИД Беларуси Сергей Мартынов. — **БелаПАН.**) *во время нашей встречи в Риме. Пока мы не получили ответа. Но очень надеемся, что до выборов мы его получим"*, — сказал президент ПА ОБСЕ.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА, доктор экономических наук, профессор*



# Греческие перспективы белорусов

Неважно вступила во второе полугодие белорусская экономика. Экспорт не облагаемых для российского бюджета пошлиной растворителей-разбавителей, на котором Беларусь за полгода заработала не один миллиард долларов, сошел на нет. Россия прекратила поставки исходного сырья для их производства — нафты. Это сразу аукнулось на сальдо внешней торговли товарами. Оставаясь положительным, в июле оно упало до незаметных 23,2 миллиона долларов с 430,8 миллиона месяцем раньше. По данным Белстата, объем экспорта товаров снизился на 266,9 миллиона долларов — с 4,22 миллиарда в июне до 3,95 миллиарда в июле. А импорт товаров вырос на 140,7 миллиона долларов. Получается, что экспортные "чудеса" вместе с "растворительным" бизнесом иссякают.

Одновременно не унимается инфляция. В июле рост цен на потребительском рынке составил 1,3%, за август — уже 2,3%. И это в августе — месяце, когда созревает урожай овощей и фруктов, когда разгар отпускного сезона и население, предприятия снижают внутренний спрос на продукцию, когда инфляция была, как правило, самая низкая в году. По итогам восьми месяцев инфляция составила 14,6%, а планируется к концу года 19—22%.

Темпы роста ВВП за полугодие составили лишь 2,9% при прогнозе 5—5,5%. Его энергоемкость увеличилась по сравнению с аналогичным периодом прошлого года на 17,4%, а должна была снизиться на 6—7%. Инвестиции в основной капитал снизились на 17,7%. Приток чистых прямых иностранных инвестиций — менее миллиарда, что значительно ниже плана. В экономике продолжает нарушаться базовая пропорция — темпы роста производительности труда должны опережать темпы роста зарплаты. В целом рост зарплаты оказался выше увеличения производительности труда на 2,2%. В промышленности эта разница 8,6%.

Рост зарплаты, не подкрепленный ресурсами, увеличивает рублевую денежную массу. Для удержания курса рубля Нацбанку, скорее всего, приходится тратить валютные резервы, которые стали вновь уменьшаться. Курс доллара опять пошел в рост с каждыми торгами на бирже. По итогам торгов 6 сентября он вырос с 8440 до 8450 рублей. Подгоняют рост зарплаты не только выборы в парламент, но и растущая массовая эмиграция квалифицированной рабочей силы и специалистов преимущественно в Россию. Скоро некому будет обеспечивать экономический рост. Средняя зарплата по стране за июнь составила 3,752 миллиона рублей, или около 450 долларов. Ожидается очередное повышение ставки первого разряда, с тем чтобы, используя административный ресурс, вывести желанные 500 долларов. И это все до боли напоминает предвыборную ситуацию 2010 года.

В три ближайших года Беларуси предстоит расплатиться по внешнему долгу суммой, сопоставимой с сегодняшней величиной золотовалютных резервов. Кроме того, камнем на шее висят валютные обязательства Нацбанка перед коммерческими банками, а это около 4,5 миллиарда долларов. В качестве главных источников поступления валюты в 2013 году помимо текущей валютной выручки правительство рассматривает те же прямые иностранные инвестиции. Их планируется привлечь в размере 4,5 миллиарда долларов. Плюс два транша кредита (5-й и 6-й) Антикризисного фонда ЕврАзЭС. Планы по привлечению иностранных инвестиций с учетом достигнутого их выполнения сегодня выглядят фантастично. А вот Антикризисный фонд и не думал снимать с повестки дня одно из главных условий кредитования — ежегодную приватизацию белорусской госсобственности на 2,5 миллиарда долларов. Правда, в нынешнем году не продано практически ничего. Видимо, положительный торговый баланс, сформированный благодаря энергетическим преференциям России и за счет многократного роста экспорта растворителей-разбавителей, так окрылил белорусские власти, что они забыли о своих обещаниях и аппетитах российского капитала.

Несмотря на то, что бюджет Беларуси исполняется с профицитом, власти начали бить по самым незащищенным слоям населения. Пенсионеры и бюджетники остались без "овощного пособия", которое в прошлом году составляло 500 тысяч рублей. С целью экономии бюджетных средств поликлиникам рекомендовано перевести ряд категорий больных с бесплатных и льготируемых импортных лекарств на отечественные. Многим малообеспеченным больным людям не останется ничего другого, как по-тихому загибаться.

Все помнят шоковую терапию 2011 года. А точнее, как говорят, шок без терапии. Риски повторения нового шока нарастают. Все более очевидно, что экономика Беларуси топчется на месте, ходит по кругу. Она попала в полную зависимость от России. Мы вновь живем не по средствам с греческой перспективой, только в рамках Таможенного союза.

ПАД ГРАДУСАМ

## *Выхадныя будуць з дажджамі*

***15 верасня*** па краіне воблачна з праясненнямі. Ноччу па паўднёва-ўсходняй палове, днём на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёва-заходні, заходні 5—10 м/с, днём па паўночным захадзе парывы да 15—18 м/с. Тэмпература паветра ўначы +6—12, па паўднёвым усходзе да +14, днём +15—22 градусы.

***16 верасня*** — пераменная воблачнасць. Ноччу ва ўсходніх раёнах кароткачасовыя дажджы. Днём пераважна без ападкаў. Вецер паўночна-заходні, паўночны 4—9 м/с. Тэмпература паветра ўначы +4—11, днём +14—21 градус.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## *Яўген Полудзень хутка пойдзе ў суд*

*Зараз экс-намеснік міністра ўнутраных спраў Яўген Полудзень ужо знаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы.*

Пра гэта паведаміў старшыня Следчага камітэта **Валерый Вакульчык**. Полудзень падазраецца ў атрыманні ад службовых асоб органаў унутраных спраў матэрыяльных каштоўнасцяў і грашовых сродкаў, злоўжыванні сваімі службовымі паўнамоцтвамі, што пацягнула прычыненне шкоды дзяржуласнасці ў буйным памеры.

**Вера ВІР.**

ПАРАЛЕЛІ

## *У Беларусі памірае ўдвая менш дзяцей, чым у Расіі*

*Кожны дзень у свеце памірае на 14 тысяч дзяцей менш, чым у 1990 годзе. Пра гэта сведчыць даклад ЮНІСЭФ.*

Смяротнасць дзяцей ва ўзросце да 5 гадоў паслядоўна змяншаецца на працягу двух апошніх дзесяцігоддзяў. Так, калі ў 1990 годзе штогод паміралі каля 12 мільёнаў дзяцей, то ў 2011-м — менш за 7 мільёнаў. Беларусь мае даволі добрыя паказчыкі. Паводле статыстыкі, у нашай краіне памірае толькі 6 дзяцей з тысячы ва ўзросце да пяці гадоў, што параўнальна з такімі краінамі, як Літва, Польшча, Венгрыя, Канада. У Расіі гэты паказчык — 12, ва Украіне — 10. Швецыя, Фінляндыя і Нарвегія маюць адну з найлепшых статыстык — толькі 3 дзіцячыя смерці на тысячу жыванароджаных.

ВІНШУЕМ!

## *Лявона Вольскага ўганаравалі прэміяй імя Васіля Быкава*

*Музыкант атрымаў прэмію "За свабоду думкі" імя Васіля Быкава.*

Нібыта ў показцы, узнагародзе прыйшлося шукаць свайго героя. Калі ў Бычках уручалася прэмія, Вольскі адпачываў у Чарнагорыі і прапусціў "зорны момант".

З-за вымушанай затрымкі прэмію музыканту ўручалі на сядзібе руху "За Свабоду". Статуэтку і дыплом Лявону Артуравічу ўручыў пісьменнік **Уладзімір Арлоў**, абяцаючы прыпомніць усе цёплыя словы на адрас Вольскага, што ўжо былі прамоўлены ў Бычках.

Прэмію музыканту ўручылі за *"дзейнасць на карысць Беларусі і свабоды"*, а заснаваў узнагароду **Аляксандр Мілінкевіч**.

Варта адзначыць, што, нягледзячы на затрымку, прэмія атрымалася вельмі своечасовай. Днямі Вольскі і гурт "Крамбамбуля" прынялі ўдзел у марафоне салідарнасці з палітвязнямі.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**



СКАНДАЛ

# Вольга Абрамава расказала пра фальсіфікацыю выбараў-2008

*Былы дэпутат Вярхоўнага Савета і Палаты прадстаўнікоў Вольга Абрамава перад чарговымі парламенцкімі выбарамі распавяла пра тое, як фальсіфікавалі вынікі выбараў па яе мінскай акрузе №108 на папярэдніх выбарах — у 2008 годзе. Дэталі падзей, пра якія дэпутат маўчала 4 гады.*



Вольга Абрамава цяпер на пенсіі, апошнія гады шмат часу прысвяціла сваёй цяжка хворай маці. Апрача таго, яна піша аналітыку для замежных інстытутаў і СМІ.

### Адбылася дэвальвацыя інстытута выбараў

Спадарыня Абрамава сочыць за цяперашняй выбарчай кампаніяй і як палітолаг фіксуе падзенне цікавасці і грамадства, і ўлады да выбараў, зніжэнне якасці кандыдатаў: *"Адбылася поўная дэвальвацыя інстытута парламентарызму і інстытута выбараў. Гэта дыягназ"*.

Дзеянні беларускай апазіцыі ў час цяперашняй кампаніі, калі адны выступаюць за байкот, а іншыя — за ўдзел, спадарыня Абрамава называе дэпрэсіўнымі паводзінамі: *"Гэта наступствы той фрустрацыі, якую апазіцыя адчула ў 2010 годзе па выніках прэзідэнцкіх выбараў, гэта стан прыгнечанасці і адчаю, спроба нешта рабіць у найцяжэйшых умовах без якой-кольвечы надзеі на вынік і нават на прамежкавую перамогу. Але гэта лепей, чым нічога"*.

У такіх умовах спадарыня Абрамава лічыць лагічным скасаваць інстытут выбараў ці, прынамсі, скараціць колькасць дэпутатаў: *"Прынамсі, адбылася б эканомія дзяржаўных сродкаў. Затраты на выбары не адэкватныя выніку. Паводле суадносін цана-якасць не праходзіць... Вы б такі тавар не купілі, калі б вам прапаноўвалі ў вольным канкурэнтным продажы"*.

Вольга Абрамава кажа пра надзвычай нізкую цікавасць грамадзян да цяперашніх выбараў і прагназуе, што 23 верасня яўка ў цэлым складзе каля 50 працэнтаў, але будуць акругі, дзе яўка не складзе і 40 працэнтаў. Астатняе прыпішуць, перакананa Абрамава.

### У 2008-м на Абрамаву ціснулі Пяткевіч і Паўлаў

Тэхналогіі і механізмы фальсіфікацыі выбараў добра адпрацаваны, кажа Вольга Абрамава: калі ў 2000 годзе пераважала ўкідванне бюлетэняў, то цяпер няма і такой патрэбы, асабліва пасля таго, як было ўхвалена рашэнне захоўваць бюлетэні пасля выбараў не 4 гады, а толькі паўгода. Гэта пралабіравалі рэгіянальныя начальнікі, якія ўсё ж пабойваюцца гіпатэтычнай адказнасці.

Вольга Абрамава кажа, што зазнала дзеянне механізмаў фальсіфікацыі на ўласным досведзе падчас выбараў 2008 года.

На той час яна была дзейным дэпутатам ужо тры скліканні і мела ў акрузе вялікую папулярнасць, асабліва пасля таго, як прагаласавала супраць скасавання льгот. Паводле звестак сацыёлагаў, яе падтрымлівалі тады больш за 80 працэнтаў выбаршчыкаў. Перад выбарамі ўлады паспрабавалі "пераканаць" Абрамаву адмовіцца ад балатавання:

*"У чэрвені мяне запрасіла ў Адміністрацыю Наталля Пяткевіч. Размова пайшла адразу наступным чынам: "Вольга Міхайлаўна, што вы хочаце ў якасці кампенсацыі за тое, што вы больш не будзеце дэпутатам?"*

*У мяне сківаца адвісае, я кажу: "Як?" А потым прыходжу ў сябе і пытаюся: "А як вы гэта сабе ўяўляеце?"*

Вольга Абрамава тады заявіла Пяткевіч, што яе адносіны з выбаршчыкамі акругі такія, што перамагчы яе ў сумленнай барацьбе не зможа ніводны кандыдат, хіба што Лукашэнка, і то не абавязкова. Але Пяткевіч настойвала, і тады Абрамава назвала дзве пасады, на якія яе апрыёры не прызначылі б*: "Яна нават пакрыўдзілася і сказала нешта накшталт: ну, гэта для сваіх.*

*Наступным разам я, каб закрыць тэму, патэлефанавала ёй і сказала: "Давайце будзем лічыць, што ніякай гутаркі ў нас не было. Ініцыятыва была ваша, і ў мяне ніякіх пытанняў да ўлады няма".*

*Такіх "някемлівых" дэпутатаў у Мінску выявілася некалькі, і іх запрасілі да кіраўніка Мінскага гарвыканкама Міхаіла Паўлава. Ён вымавіў сакраментальную фразу: „Павінна быць ратацыя. Тыя, хто быў дэпутатам два і тры разы, больш дэпутатамі не будуць". Прычым ён сказаў гэта ў прысутнасці вялікай колькасці чыноўнікаў".*

Вольга Абрамава паспрачалася і з Паўлавым і не адмовілася ад удзелу ў выбарах. Але неўзабаве адчула, што пачаўся ціск.

Збіральнікаў подпісаў за яе пераконвалі "не марнаваць часу", бо Абрамава ўжо не будзе дэпутатам, а два працоўныя калектывы, якім яна як дэпутат дапамагала, у апошні момант адмовіліся яе вылучаць:

*"Адзін з кіраўнікоў клінікі кажа: мы не можам гэтага зрабіць, нам тэлефанавалі з гарвыканкама (дагэтуль памятаю прозвішча гэтага чыноўніка) і ў крайне грубай форме выказалі пагрозу зняць кіраўніка, калі мне будзе дадзена рэкамендацыя".*

Абрамава як дзейны дэпутат і кандыдат не змагла сустрэцца з калектывамі пяці ўстаноў на тэрыторыі сваёй акругі. Толькі рэктар Мастацкай акадэміі прыслаў ліст з выбачэннямі, іншыя нават не адказалі. Абрамава перакананa, што ў яе выпадку рашэнне прымалі не Пяткевіч і не Паўлаў, а асабіста Лукашэнка.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

МЕРКАВАННЕ

# Захоўваць грошы лепей у рублях?

*На фоне заявы старшыні Нацбанка Надзеі Ермаковай, што бліжэйшым часам не выключана плаваючая дэвальвацыя, намеснік старшыні праўлення ЗАТ "МТБанк" Ігар Бычак зрабіў іншую: ён лічыць, сёння самы лепшы варыянт захоўвання грошай — банкаўскія ўклады ў беларускіх рублях.*

Сваё меркаванне банкір патлумачыў тым, што на дадзеным этапе даходнасць рублёвых зберажэнняў нашмат вышэй ставак па валютных дэпазітах. "Сярэдняя прыбытковасць па валютных укладах роўная 5—6%, а па рублёвых — 32—35%. Розніца каласальная ", — падкрэсліў у інтэрв'ю infobank.by Ігар Бычак.

"Апошні год я сам фармірую свае зберажэнні ў беларускіх рублях, — прызнаўся банкір. — Нацыянальны банк Беларусі праводзіць правільную і граматную палітыку. Ён стымулюе банкі зніжаць даходнасць па валютных укладах і захоўваць альбо павялічваць па рублёвых".

Сёння нарматыў абавязковага рэзервавання па валютных рэсурсах вырас, з прычыны чаго банкам прыходзіцца зніжаць працэнтныя стаўкі па валютных укладах, у той час працэнтныя стаўкі па ўкладах у нацыянальнай валюце растуць.

## НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

### «Розніца ў выгадзе паміж рублёвымі і валютнымі ўкладамі будзе паступова зніжацца»

Фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра Альпары ў Мінску **Вадзім Іосуб** таксама лічыць, што сёння лепшае месца для захоўвання беларускіх рублёў — банкаўскі ўклад. Але папярэджвае: несці грошы ў банкі варта толькі тым беларусам, якія могуць аналізаваць сітуацыю на фінансавым рынку.

— Я пагаджуся з калегам з "МТБанка", — кажа Вадзім Іосуб. — Калі мы прымаем рашэнне аб тым, у чым захоўваць свае зберажэнні, абапірацца трэба не на нейкія эмоцыі, а на факты. А факты ПАКУЛЬ такія, што на сённяшні дзень з улікам розніцы ставак па рублёвых і валютных дэпазітах, з улікам нават чакаемага зніжэння курса беларускага рубля ўсё яшчэ больш выгадна захоўваць грошы ў нацыянальнай валюце. Але пры гэтым, безумоўна, трэба ўважліва сачыць за тым, як будзе зніжацца стаўка рэфінансавання і адпаведна падаць стаўка па дэпазітах, сачыць за тым, як будзе расці курс замежнай валюты. Гэта дазволіць заўважыць момант, калі будзе сэнс перакладаць рублёвыя зберажэнні ў валютныя. На сённяшні дзень гэты час яшчэ не настаў.

**— Але ёсць здагадкі, што ён можа наступіць ужо к канцу года … Вы маглі б зрабіць свой прагноз на гэты конт?**

— Прагназаваць гэта складана. Няма такога аб'ектыўнага працэсу, які дапамог бы разлічыць, што, напрыклад, праз 2,5 месяца захоўваць грошы ў рублях будзе нявыгадна і рызыкоўна. Узнікненне такой сітуацыі залежыць ад шматлікіх фактаў. Перш за ўсё ад таго, якімі тэмпамі будзе зніжацца стаўка рэфінансавання і якімі тэмпамі будзе расці курс замежнай валюты. А гэтыя паказчыкі ў сваю чаргу залежаць ад тэмпаў росту зарплаты і ад таго, будзе ці не працаваць друкарскі станок. На мой погляд, калі нашы ўлады будуць праводзіць тую грашовую палітыку, якую праводзілі раней і праводзяць цяпер — калі нават на фоне пастаяннага зніжэння стаўкі рэфінансавання яна ўсё роўна застаецца вышэй бягучай інфляцыі, — выгадней будзе захоўваць грошы ў нацыянальнай валюце. Хаця розніца ў выгадзе паміж рублёвымі і валютнымі ўкладамі будзе паступова зніжацца.

**— Гэта значыць, вы раіце насельніцтву самому адсочваць сітуацыю на фінансавым рынку. Але ж не ўсім гэта па сілах…**

— Тым, каму цяжка псіхалагічна трымаць грошы ў рублёвых укладах, хто баіцца прагарэць, можна прапанаваць альтэрнатыўны варыянт — захоўваць грошы ў валюце, прычым пажадана падзяліць на долары і еўра, каб не адсочваць іх узаемных ваганняў. На дадзены момант даход па працэнтах ад валютнага ўкладу будзе крыху меншым, чым ад рублёвага, але чалавек будзе спаць спакойна.

## ДА ВЕДАМА

### Што прапаноўваюць банкі?

Працэнтныя стаўкі на ўклады ў беларускіх рублях сапраўды немалыя — ад 25 да 35% гадавых у залежнасці ад банка, сумы ўкладаў і яго працягласці. Беларусам, якія засцярожана ставяцца да ўкладаў, баяцца згубіць грошы, але гатовы паспрабаваць адкрыць рахунак, банкі прапаноўваюць кароткатэрміновыя ўклады. Гэта дэпазіты тэрмінам да 100 дзён: крыху больш за тры месяцы. Некаторыя банкі прапаноўваюць зрабіць уклад усяго толькі на 14 дзён. Стаўка па ім складае 23%, аднак сума ўкладу павінна пачынацца ад 1 мільёна рублёў і не перавышаць 50 мільёнаў. Эксперты раяць абавязкова звяртаць увагу, якая стаўка прапаноўваецца — фіксаваная альбо плаваючая. Бо калі не прывязана да стаўкі рэфінансавання, то прыбытковасць можна страціць пры наступным зніжэнні стаўкі рэфінансавання.

## УРОКІ МІНУЛАГА

### Згубілі больш за мільярд долараў

У выніку дэвальвацыі мінулага года беларусы, якія мелі рахункі ў банках у нацыянальнай валюце, у суме страцілі 1,3 млрд долараў. Эканамісты падлічылі, што на пачатак красавіка 2011 года сума ўкладаў насельніцтва ў нацыянальнай валюце складала 9,7 трлн беларускіх рублёў, што па курсе абмену 3100 рублёў за 1 долар складала каля 3,1 млрд долараў. Пасля праведзенай уладамі 24 мая дэвальвацыі гэтая ж сума па курсе абмену 4930 рублёў за 1 долар зменшылася да 1,8 млрд долараў. Атрымалася, што літаральна за адзін дзень на рахунках у нацыянальнай валюце насельніцтва страціла 1,3 млрд долараў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

# Беларусы змогуць вучыцца ў Польшчы бясплатна?

*Дэпутат Еўрапарламента ад Польшчы Марэк Мігальскі прапануе знізіць або адмяніць плату за навучанне ў польскіх універсітэтах для студэнтаў з Беларусі.*

Як паведамляецца на сайце дэпутата, з адпаведным лістом ён звярнуўся да рэктараў вышэйшых навучальных установаў Польшчы.

Мігальскі лічыць неабходным увесці спецыяльную праграму навучання для студэнтаў з Беларусі.

Еўрадэпутат падкрэслівае, што палітычная сітуацыя ў краіне працягвае пагаршацца, а маладыя людзі не маюць магчымасці для атрымання адукацыі і палітычнай дзейнасці, таму выязджаюць за мяжу.

На яго думку, аблягчэнне ўмоў прыёму беларусаў на навучанне ў ВНУ Польшчы стане важным выказваннем польскай салідарнасці і падтрымкі народа суседняй краіны.

ДЫПКУР'ЕР

# Новы пасол Венгрыі пачаў працаваць

*Учора пасол Венгрыі ў Беларусі Вілмаш Сіклавары ўручыў копіі даверчых грамат міністру замежных спраў Уладзіміру Макею. Дата ўручэння даверчых грамат Лукашэнку пакуль не вядомая.*

Раней Пасольства Венгрыі ў Беларусі ўзначальваў Ферэнц Контра.

Вілмаш Сіклавары нарадзіўся 25 верасня 1954 года ў Будапешце. Скончыў Універсітэт эканамічных навук імя Карла Маркса. З 1979 года з'яўляецца супрацоўнікам Міністэрства замежных спраў Венгрыі. Працаваў у Пасольстве Венгрыі ў Балгарыі і ў генеральным консульстве Венгрыі ва Ужгарадзе (Украіна).

Сіклавары таксама з'яўляецца старшынёй Саюза работнікаў МЗС Венгрыі.

СУСЕДЗІ

# Пратэст на трактарах «Беларус»

Балтыйскія фермеры ў сярэдзіне лістапада правядуць акцыю супраць недастатковых датацый з боку Еўрасаюза. Як заявіў прадстаўнік Латвійскай асацыяцыі сельскагаспадарчых кааператываў Улдыс Крыеварс, фермеры плануюць адправіцца ў Брусель на трактарах "Беларус" ці Т-14, паведамляе партал delfi.lt.

*"У Брусель з Таліна накіруюцца або савецкія трактары "Беларус", або Т-14, і ў дарозе яны правядуць прынамсі 10 дзён. У Латвіі трактары зробяць прыпынкі ў Валміеры, Рызе і Баўсцы, дзе пройдуць мітынгі сялян"*, — сказаў Крыеварс.

Паводле яго слоў, мэта акцыі — прыцягнуць увагу брусельскіх чыноўнікаў і жыхароў Еўропы да таго вартага жалю становішча, у якім з-за нізкіх прамых плацяжоў знаходзяцца сяляне ў краінах Балтыі.

Латвія патрабуе ад ЕС устанавіць мінімальны памер прамых плацяжоў на ўзроўні 80% ад сярэдняга па Еўропе ўжо з 2014 года. Зараз латвійскія сяляне атрымліваюць самыя нізкія субсідыі ў ЕС — не больш за 63 латы за гектар, тады як сярэдні паказчык па ЕС складае 266 еўра (186 латаў) за гектар.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Трапілі пад манастыр

*Расследаванне крымінальнай справы, заведзенай у дачыненні да былога кіраўніка Полацка Уладзіміра Тачылы, завершана. Зараз матэрыялы вывучаюцца Генпракуратурай, пасля чаго справа будзе перададзена ў суд.*

Уладзімір Тачыла быў арыштаваны напярэдадні 1150-гадовага юбілею Полацка, які на працягу тыдня святкаваўся ў канцы мая — на пачатку чэрвеня. Але маштабныя ўрачыстасці абышліся без "першых асоб мясцовага ўзроўню".

Уладзімір Тачыла апынуўся за кратамі 21 мая. Гэта была сапраўдная бомба, бо здавалася, што Тачыла з ліку "недатыкальных". Сваю пасаду ён займаў ажно з 1999 года і з'яўляўся адным з самых вопытных кіраўнікоў "вертыкалі".

Потым стала вядома, што крымінальная справа заведзена і ў дачыненні да старшыні Полацкага райвыканкама **Валерыя Палідаўца**, а таксама іх намеснікаў — **Сяргея Куксава і Алега Ермаковіча**. З'явіліся самыя розныя версіі такіх маштабных арыштаў, прычым шмат хто ўспомніў пра тое, што самы вядомы полацкі бізнесмен **Сяргей Захараў**, уладальнік супермаркетаў і самага буйнога рынку горада, таксама не пазбегнуў следчага ізалятара. Але, як высветлілася зараз, чыноўнікі пагарэлі не на буйным бізнесе, а на неўтаймаваных апетытах.

Як паведаміў у інтэрв'ю інфармацыйнаму агенцтву БЕЛТА старшыня Следчага камітэта **Валерый Вакульчык**, у 2009 годзе чыноўнікі незаконна выдзелілі сабе і сваім блізкім зямельныя ўчасткі. Ды не дзе-небудзь, а ў ахоўваемай зоне, на тэрыторыі, прылеглай да Спаса-Еўфрасіннеўскага жаночага манастыра. У выніку былым кіраўнікам горада і раёна абвінавачанні прад'яўлены па ч.2 ст.344 "Наўмыснае знішчэнне або пашкоджанне гісторыка-культурных каштоўнасцяў або матэрыяльных аб'ектаў, якім можа быць прысвоены статус гісторыка-культурных каштоўнасцяў" і ч.3 арт.424 "Злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі".

Артыкулы сур'ёзныя. Па апошнім Крымінальны кодэкс прадугледжвае пакаранне да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці. Але прыгавор наўрад ці будзе такім жорсткім, бо, па словах кіраўніка следства, "шкода ад незаконнай дзейнасці пералічаных службовых асоб пакрыта ў поўным аб'ёме". Як правіла, такая акалічнасць істотна змякчае выніковы прыгавор, хаця немагчыма нават ацаніць шкоду, якую высокія службовыя асобы наносяць падобнымі дзеяннямі аўтарытэту дзяржаўнай улады.

Звяртае на сябе ўвагу і наступная дэталь. Яшчэ на пачатку 2011 года пракуратура Віцебскай вобласці рапартавала пра тое, што вынесена сем пратэстаў пракурораў на неабгрунтаванае прадастаўленне грамадзянам участкаў у ахоўваемай зоне ля Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Усе незаконныя рашэнні аб выдзяленні гэтай зямлі пад будаўніцтва жылых дамоў былі адменены. Чаму тады пракуратура не ўбачыла зямельных участкаў, выдзеленых кіраўнікам Полацка і іх родным?

**Алег СНОЎ.**

## ДАСЛОЎНА

### Ці атрымаў Уладзіслаў Кацарэнка мільён долараў?

Да разраду "гучных спраў", безумоўна, адносіцца крымінальная справа былога старшыні назіральнага савета "Тэхнабанка", намесніка старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі **Уладзіслава Кацарэнкі**. Вось што расказаў пра ход расследавання Валерый Вакульчык: *"Уладзіслаў Кацарэнка падазраецца ў стварэнні і кіраўніцтве арганізаванай злачыннай групай, так званай "групай фінансістаў". Ён абвінавачваецца па чатырох артыкулах: у крадзяжы шляхам злоўжывання службовым становішчам, незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці, ухіленні ад выплаты падаткаў і махлярстве. У якасці абвінавачаных па гэтых справах праходзіць восем чалавек. Сума шкоды, якую яны прычынілі сваімі дзеяннямі бюджэту Беларусі, ацэньваецца ў 20 мільярдаў беларускіх рублёў, не выключана, што яна павялічыцца. Кацарэнка дапамагаў кіраўнікам прыватных кампаній ухіляцца ад выплаты падаткаў і збораў, даючы ім падробныя дакументы і рэквізіты падкантрольных яму лжэпрадпрымальніцкіх структур — рэзідэнтаў Расійскай Федэрацыі, краін Балтыі, Вялікабрытаніі. Таксама Кацарэнка абвінавачваецца як кіраўнік групы, якая займалася незаконным абменам валюты. Доказамі яго віны з'яўляюцца: бухгалтарскія дакументы, даныя падатковых праверак, паказанні грузаперавозчыкаў і службовых асоб, заключэнні крыміналістычных экспертыз, матэрыялы выканання міжнародных даручэнняў, у тым ліку па лініі Інтэрпола, з якім мы цесна ўзаемадзейнічаем пры расследаванні гэтай справы. Існуюць таксама даныя, якія сведчаць аб перадачы для Кацарэнкі каля аднаго мільёна долараў. Віны сваёй падазроны не прызнае. Следства плануе правесці яшчэ шэраг экспертыз. Мяркую, што расследаванне гэтай крымінальнай справы будзе завершана да канца года".*

СКАНДАЛ

# Вольга Абрамава расказала пра фальсіфікацыю...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

## У назіральніка былі два розныя пратаколы выбараў

Калі падводзіліся вынікі выбараў 2008 года, звесткі з яе 108-й Каліноўскай акругі ў ЦВК паступілі аднымі з апошніх, нават затрымалі агульную справаздачу ЦВК: *"Уяўляеце, якая там была „нестыкуха", што, нягледзячы на датэрміновае галасаванне, ім не ўдалося звесці канцы з канцамі. Тыя назіральнікі, якіх паставіў БХК, і некаторыя замежныя назіральнікі зафіксавалі маю вялікую перавагу ў дзень выбараў".*

Пасля абвяшчэння афіцыйных вынікаў выбараў, паводле якіх Абрамава набрала 24 працэнты галасоў, а яе мала каму вядомы канкурэнт Мікалай Казак — 60, да Абрамавай прыйшоў міжнародны назіральнік:

*"Пры гэтым ён сказаў: „Давайце вырашаць, што будзем рабіць. У мяне прамыя доказы фальсіфікацый, мы можам узарваць усю сітуацыю". Ён прынёс мне копіі двух пратаколаў — той, які раздалі назіральнікам пасля заканчэння выбараў у асноўны дзень галасавання, і той, які ён змог вырваць у старшыні акруговай камісіі на наступны дзень і які пайшоў у ЦВК. Гэта былі два розныя пратаколы".*

Вольга Абрамава тады вырашыла прамаўчаць. Тыя дакументы пасля назіральнік аддаў Лідзіі Ярмошынай.

## Хай людзі пабачаць, што ёсць іншая думка

Выбаршчыкі са 108-й акругі ў 2008 годзе доўга абураліся, стварылі нават аргкамітэт для змагання за Абрамаву. Але яна вырашыла не абвастраць сітуацыю. Чаму?

*"Як і ва ўрача, у мяне ў палітыцы прынцып: не нашкодзіць. І тады ў мяне была надзея на „Усходняе партнёрства". Я вельмі спадзявалася, што гэты працэс зрушыцца, я ведала, што калі я раскажу ўсё, што адбывалася ў маёй акрузе, то гэта можа негатыўна адбіцца на сітуацыі".*

Вольга Абрамава гэтак адказала, чаму цяпер, праз чатыры гады пасля тых падзей, вырашыла агучыць гэтыя факты: *"Можа, пасля гэтай публікацыі, па-першае, на ўзроўні рэгіянальных улад людзі хоць пра нешта задумаюцца, хаця б пра сваю бяспеку — я прыхільніца таго, каб пачаць збор подпісаў за ўнясенне ў Крымінальны кодэкс змен, каб жорстка караць за фальсіфікацыі ажно да пажыццёвага зняволення. І другое — я апелюю да ўлады: чаго вы баіцеся? Палітычны расклад сёння такі, што ўсё роўна большасць будзе за вамі. Пакуль што. Унясіце хаця б нейкую канкурэнцыю ў парламент, зрабіце палітычны працэс цікавейшым, хай людзі пабачаць, што ёсць іншая думка".*

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**
*Радыё Свабода.*

СМУТКУЕМ

# «Пагуляў у хакей, выйшаў на вуліцу і... памёр»



Ва ўзросце 35 гадоў памёр Сяргей Арцюхін, які быў капітанам зборнай Беларусі па грэка-рымскай барацьбе на Алімпіядзе-2008 у Пекіне. Сяргей Арцюхін — чэмпіён Еўропы 2005 года ў цяжкай вагавай катэгорыі. Выступаў за Расію, але ў апошнія гады перад завяршэннем кар'еры — за Беларусь. Яго брат — вядомы хакеіст, форвард піцерскага СКА і зборнай Расіі Яўген Арцюхін.

— У Сяргея, наколькі мне вядома, спынілася сэрца, — распавядае "Народнай Волі" трэнер зборнай Беларусі па грэка-рымскай барацьбе **Камандар МАДЖЫДАЎ**. — Пагуляў у хакей, выйшаў на вуліцу да сваёй машыны і... памёр. Апошні раз за беларускую каманду ён выступаў на Алімпіядзе ў Пекіне, пасля чаго вырашыў завяршыць выступленні ў вялікім спорце. З'ехаў у Маскву займацца бізнесам. Сустракаліся пасля гэтага, ні на што не скардзіўся, вёў здаровы лад жыцця. Дарэчы, бацька Сяргея — у мінулым чэмпіён свету па грэка-рымскай барацьбе — таксама памёр у 2008 годзе амаль падобным чынам. Пагуляў у баскетбол — і не стала...

**Алесь СІВЫ.**

ВУНДЭРКІНДЫ

*Карына ПАЧКО:*

# «На мяне глядзелі і здзіўляліся: «Ваў, дык ты яшчэ і сімпатычная!»



*На пачатку лета сціплая выпускніца з Новалукомля **Карына Пачко** не верыла, што знакамітай можна стаць дзякуючы ЦТ. Яна атрымала сенсацыйныя 100 балаў па хіміі і біялогіі! "Народная Воля" пацікавілася, як склаўся лёс дзяўчыны пасля трыўмфальнай уступнай кампаніі.*

*Па выніках чатырох тэстаў у скарбонцы Карыны было 388 балаў з 400 магчымых. Фантастычна! Асабліва калі ўлічыць, што на падрыхтоўку сваіх "залатых" дысцыплін дзяўчына патраціла толькі сем месяцаў самастойных заняткаў. У выніку Карына дасягнула завоблачных вышынь. У краіне толькі яшчэ адна школьніца здолела паказаць такі ж вынік. Праўда, **Таццяна Бараноўская** з мінскай гімназіі №11 атрымала вышэйшыя балы па гуманітарных дысцыплінах — рускай мове і гісторыі Беларусі.*

*У чым жа сакрэт Карыны? Проста яна любіць хімію. Іншыя дзяўчаты з'яўляюцца аматаркамі коцікаў, балета ці поп-выканаўцаў, а медалістка з Новалукомля захапляецца прыродазнаўствам.*

*Як адпачывала 100-бальніца пасля паступлення?*

— Па сутнасці, нармальнага лета ў мяне і не было, — *з усмешкай прызналася Карына "Народнай Волі".* — Спачатку ЦТ, потым падача дакументаў і іншая папяровая цяганіна. Дый надвор'е не спрыяла. Зрэшты, было звычайнае лета, нават у паход схадзілі. Адным словам, чакала новага навучальнага года.

**— Не падманулі вас прадчуванні?**

— Медуніверсітэт мне падабаецца, тут шмат цікавых людзей. Ведаеце, новыя знаёмствы і абстаноўка заўжды вабяць. Такім я сабе "мед" і ўяўляла, не падмануў ён маіх чаканняў.

**— Як адбіваецца на вас расставанне з бацькамі? Змена жыццёвага рытму?**

— Я чакала, што мне будзе даволі цяжка змяніць абстаноўку. Але ўсяго за два тыдні паспела прызвычаіцца, і мне гэта нават падабаецца. Да новага асяроддзя ўжо прыстасавалася і адчуваю сябе свабоднай.

**— Вы ў інтэрнаце жывяце?**

— Не, здымаю кватэру. Так склалася, што пераехаць у інтэрнат я змагу толькі ў лістападзе.

**— Першую стыпендыю куды патраціце?**

— Пакуль я яшчэ гэтыя грошы не атрымала, але думаю, што пойдуць яны на самыя звычайныя бытавыя рэчы.

**— Няўжо ніякіх забабонаў? Улічваючы некаторыя асаблівасці вашай падрыхтоўкі да экзаменаў…**

— Была справа — клала падручнікі пад падушку перад іспытамі. А пакуль ніякіх асаблівых студэнцкіх прыкмет у мяне няма. Дый сапраўднага студэнцкага жыцця яшчэ не было, жорсткая вучоба не пачалася. Праўда, чакаць засталося ўсяго тыдзень...

**— Калі тое самае "сапраўднае студэнцкае жыццё" пачнецца, не баіцеся, што драйв можа перашкодзіць вучобе?**

— Я ўмею канцэнтраваць сваю ўвагу на асноўным і размяркоўваць свой час так, каб яго хапала і на тое, і на гэтае. Спадзяюся, што ў мяне атрымаецца сумяшчаць прыемнае з карысным.

**— Вучоба ў медыцынскім лічыцца вельмі складанай. Як даюцца вам першыя заняткі?**

— Медык — даволі адказная... вельмі адказная спецыяльнасць. Жыццё чалавека — гэта вам не жартачкі. Але ўсе вучацца, і я буду вучыцца, куды ж я падзенуся!

**— Ад віду крыві вам млосна не робіцца?**

— Крыві я не баюся, а ў морг мы пойдзем не раней за другі курс.

**— Вашы выкладчыкі чакаюць ад вас нейкіх завоблачных вынікаў? Маўляў, такія поспехі падчас уступнай кампаніі павінны адлюстравацца і на ўніверсітэцкай вучобе…**

— Наколькі я паспела зразумець, універсітэцкім выкладчыкам увогуле няма ніякай справы да таго, што там у цябе было да ўніверсітэта. Галоўнае — тыя вынікі, што ты паказваеш падчас навучання.

**— Можа, ужо з'явілася любімая дысцыпліна?**

— Ёю застаецца хімія. Мне яна дагэтуль цікавая.

**— Дарэчы, ці прыходзілася вам сутыкацца са стэрэатыпам, што прыгожая дзяўчына не можа быць разумнай?**

— Бывала, што на мяне глядзелі і здзіўляліся: "Ваў, дык ты яшчэ і сімпатычная!.."

**— А ці даводзілася сустракацца з зайздроснікамі, якія казалі, што ўсе вашы поспехі грунтуюцца на блаце ці хабарніцтве?**

— З тымі, хто сказаў бы мне такое ў твар, я пакуль не сустракалася. Школу я скончыла з залатым медалём, хаця мае вынікі па ЦТ усё роўна здзівілі ўсіх. Праўда, і чакалі ад мяне поспеху.

**— Да апошняга часу ў вас была мэта — паступіць. Аб чым марыце зараз?**

— Здаць першую сесію *(смяецца)*.

***

*Пакуль студэнтка толькі прыглядаецца да таго, што адбываецца навокал. Патроху прызвычайваецца да жыцця ў вялікім горадзе, хоць Мінск крыху знаёмы — сюды Карына прыязджала на рэпетыцыйнае тэсціраванне, завітвала па справах.*

*За час кароткай размовы з Карынай удалося высветліць, што яна, хоць і не гуманітарый па сутнасці, вельмі любіць родную мову. А яшчэ дзяўчына скончыла музычную школу і мае даволі моцны вакал.*

*Падчас падачы дакументаў у ВНУ Карына прызналася журналістам, што марыць стаць фармацэўтам, ствараць лекі, якія змогуць ўратаваць людзей ад хвароб. Ці здзейсніцца мара юнай выдатніцы? Ці захавае дзяўчына сваё захапленне?*

— Ведаеце, нават не думала аб тым, што можна падаць дакументы ў замежны ўніверсітэт, — *прызналася Карына.* — Думаю, разумныя людзі патрэбны і ў нашай краіне.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

